




# Беларус

> **«Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь зьяўляецца беларуская мова».**
> *— Канстытуцыя РБ, Артыкул 17.*

**№431 Студзень 1996 г.**
Год выд. 45

**BIELARUS / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.**
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $3.00

## ГОД 1995

Год 1995, год мінулы, будзе трываць у беларускай памяці доўга. Варта прыпомніць, што год 1995 быў годам юбілейным. Дзьвесьце гадоў таму ўся Беларусь трапіла пад панаваньне Расеі і сталася «Северо-Западным Краем».

Што нам дало расейскае панаваньне было добра асэнсаванае ці адным айчынным і замежным сацыёлягам, гісторыкам, палітыкам, эканамістам. З адміністрацыйна-стратэгічнага гледзішча Беларусь (да нядаўняга БССР), як тэрытарыяльны ўскрай Расейскае Імпэрыі, сталася добрым буфэрам у шматлікіх расейскіх войнах, цярпечы дашчэнтныя зьнішчэньні. У галіне эканомікі Беларусь — каляніяльны прыдатак, сучасны тэрмін «зборачны цэх» — вялікае імпэрскае машыны. У пляне ж псыхалягічным гады расейскае акупацыі вытварылі асобу, зрусыфікаваную, з комплексамі меншавартасьці, ня верачае ў собскія сілы, шукаючае падачкі-падтрымкі ды з асноўным камплексам, наданым і прывітым расейскай школай, што мы, беларусы, народ бездзяржаўны, праз усю гісторыю паняволены то літоўцамі, то Польшчай, то немцамі, але заўсёды «вызваляны» Расеяй.

Закладзеная царскай Расеяй праграма русыфікацыі Беларусі была пераняттая сыстэмай савецкай, якая ўзмоцніла гэты працэс нячуваным тэрорам і вынішчэньнем дзесяткоў тысячаў нацыянальна думаючых беларусаў.

Палітычныя падзеі леташняга году укаранавалі той 200-ы юбілей пры дапамозе рук сваіх «выхадцаў з народу», але былі плянаванымі, бясспрэчна, не беларусамі. Як толькі ў сваім краі, у Беларусі, пачала аджываць нашая душа, нашая мова, нашыя пагляды — беларусы пачалі ажываць, як дзяржаўная нацыя, да ўлады хітра-прадумана прыступіліся людзі, першым крокам якіх было разарваць беларускі нацыянальны сьцяг, пачаць таптаць нашу гістарычную сымболіку, сеяць насьцярожанасьць, а то і прост страх у тых, хто пачынаў пачуваць сябе беларусам, а не савецкім чалавекам. Новая ўлада адразу павяла наступ на беларускую школу, нацыянальнае ўзгадаваньне, вольную прэсу. Інакш кажучы, на тыя элемэнты грамадзкага жыцьця, якія ўзгадоўваюць, параджаюць новыя пагляды, выхоўваюць асобу думаючую, нацыянальна сьведамую.

У пляне эканамічным, новая ўлада выкінула ў сьметнік перадвыбарчыя лёзунгі (праграмаў ня было), на якія, на вялікі жаль, паддаўся значны працэнт палітычна бяздумнае, нацыянальна вытраўленае масы. На зьмену лёзунгам перадвыбарчым прыйшлі «новыя», у сапраўднасьці старыя, зьбітыя, савецкія — «будзем змагацца з ворагам, найперш з сьведамымі беларусам, а затым будзем думаць пра эканоміку». Быў кінуты як бы кліч — «нашыя сёньняшнія эканамічныя цяжкасьці спрычыненыя беларускай дзяржаўнасьцю, незалежнасьцю. Зьнішчай незалежнасьць.»

І гэта праводзіцца ў жыцьцё: нацыянальная Беларусь нішчыцца, заганяецца, як не парадаксальна, пад расейскі нацыянальны трохкаляровы (царскі, белагвардзейскі, керанскі, уласаўскі) сьцяг ды пад двухгаловага арла! (Расейцы сваіх сьцягоў і сымболікі не мяняюць!)

Вось гэтак прыпамінаецца мінулы год і гэткім трагічным ён увойдзе ў беларускую гісторыю. У такой роўніцы як і гады мураўёўшчыны, пагромаў беларускай інтэлігенцыі, разгулу беларуска-ненавісьніцкае ідэалёгіі і русыфікацыі, высілку затрымаць разьвіцьцё і зьнішчыць дэмакратычныя працэсы на Беларусі, зьліквідаваць беларускую дзяржаўнасьць. Працэс распачаты рускімі царамі, сёньняшняя ўлада на Беларусі, выглядае, будзе імкнуцца давесьці да канца — Беларускую Дзяржаву зьнесьці з карты Эўропы.

Калі ж гаворка аб годзе наступаючым, дык невялічкая іскарка напрыканцы мінулага, дае падставу нязначнаму падбадзёраньню: Беларусь абрала парлямант і, выглядае, дзейны. Здаецца, беларускі выбаршчык пачаў прабуджацца. О, каб мы ў масе гэтак практычна і разумна думалі, як кожны паасобку, сам сабе! Каб думалі глыбей у 1994-ым і ў мінулым годзе, нашая дзяржаўнасьць была б на ўздыме, як ёсьць у балтыцкіх краінах ды абразы нацыянальнае мы не цярпелі б сёньня. Будзем спадзявацца, што і беларускі выбаршчык і новы парлямэнт будуць думаць па-беларуску ды парлямэнт запачаткуе беларускую эканамічную палітыку, а не палітыку прыдатковую да «цэнтру» у Маскве ды канстытуцыйна ўпарадкуе нацыянальную сымболіку, дзяржаўную беларускамоўнасьць. Беларусь таксама павінна ўсьведаміць, што звароту, адраджэньня, тае ненармальнасьці 20-га стагодзьдзя, якой была дзяржава СССР — няма і ня будзе! Сьвет, нашыя блізкія і далёкія суседзі гэта зразумелі. Адзіны для Беларусі шлях да лепшае будучыні (праўда, зьбіты выраз, але падыходзячы) у сваёй незалежнай дзяржаве. Новае, людзкае жыцьцё, на Беларусі магчымае толькі у дэмакратычнай, незалежнай, сваёй дзяржаве. І ў кірунку адраджэньня беларускае дзяржавы пад бел-чырвона-белым сьцягам і старадаўняй Пагоняй мы будзем працаваць далей.

**Вітаўт Кіпель**

---

16 студзеня 1996 г.

**Вельмі Паважанаму**
**Сымону Шарэцкаму**
**Старшыні Вярхоўнага Савету**
**Рэспублікі Беларусь**
**Менск**
**Вярхоўны Савет РБ**

**Шаноўны спадар Шарэцкі!**

Сардэчна віншую Вас з абраньнем на адказнае становішча Старшыні Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь 13-га скліканьня. Жадаю добрага здароўя і памыснасьці ў працы.

Беларусы Злучаных Штатаў зь вялікім зацікаўленьнем, а апошнім часам і трывогай, сочаць ход падзеяў на Беларусі, перажываюць за долю дэмакратыі і роднай мовы. Мы ўсе спадзяёмся, што ў Вашай асобе Бацькаўшчына будзе мець мудрага абаронцу Канстытуцыі, свабоды слова і правоў чалавека. Шчыра просім Вас таксама карыстацца ў вядзеньні сэсіі Вярхоўнага Савету, а таксама ўсюды, дзе можна, дзяржаўнай беларускай мовай, якая пасьля леташняга рэфэрэндуму конча патрабуе ратунку ад выміраньня. Для беларусаў замежжа Вы сталіся сёньня сымбалем надзеі на тое, што самаахвярная праца ўсіх папярэдніх тварцоў нацыянальнае культуры і пакутнікаў ня была марнай, што іхны ўклад у духовае разьвіцьцё Беларусі мае сёньня ў Вашай асобе дастойнага прадаўжальніка. За дапамогу роднай мове выжыць, разьвівацца і быць стымулятарам дзяржаўнага будаўніцтва гісторыя паставіць Вас у шэраг заслужаных сыноў свайго народу.

Са шчырай павагай —

***Антон Шукелойць***

**Старшыня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня**

## ЗАХОДНЯЯ ПРЭСА, БЕЛАРУСЬ І СП. ЛУКАШЭНКА

Увага да Беларусі пачала зьяўляцца ў заходнім друку, калі ў Вярхоўным Савеце рэспублікі сфармавалася апазыцыя. На захадзе ўважалі, што Беларусь пачала палітычна абуджацца. Важна падкрэсьліць, што пра Беларусь пачаў пісаць заходні друк ня толькі «вялікі», але шырака пісалі і газэты мясцовыя.

Заходні друг сачыў і насьвятляў выбарчы працэс на Беларусі. Пасьля прэзыдэнцкіх выбараў у 1994 годзе на старонках заходняга друку было выказанае незразуменьне: каго Беларусь выбрала на пасаду прэзыдэнта!? Друк адзначаў, што сп. Лукашэнка ня меў ні дасьведчаньня кіраваньня дзяржавай, ня меў ён ніякае ні эканамічнае ні палітычнае праграмы, а кідаў прост лёзунгі: «барацьба з карупцыяй, турма ўсім, хто крадзе»! Наагул, па прэзыдэнцкіх выбарах 1994 году, а асабліва пасьля, гэтак званага, рэфэрэндуму (на захадзе ўважаюць, што «рэфэрэндум» – гэта пачаткі ламаньня канстытуцыі), у адрас Беларусі, беларускага народу было выдрукавана шмат няцікавых выказваньняў. Асноўнай, праводнай думкай тых выказваньняў было, што наўрад ці дасьпеў беларускі народ да самастойнасьці, незалежнасьці. Аднача з гэткім крытычным падыходам да беларускага выбаршчыка і палітычных паглядаў народу, у заходняй прэсе пачалі друкавацца артыкулы-агляды захаваньня прэзыдэнта Беларусі, ягоных выказваньняў. Войстра выступіў друк супраць разгону і пабіцця дэмакратычнае апазыцыі. Шырокі водгук

(Працяг на 2-й б.)

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## РАДЫЁ «СВАБОДА»: ІНТЭРВ'Ю З РАСЬЦІСЛАВАМ ЗАВІСТОВІЧАМ

**Свабода:** Якім быў 1995 год для Беларускага Кангрэсавага Камітэту?

**Р.З.:** Для Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі 1995 год быў годам напружанае працы. Каб гэта зразумець, я павінен спыніцца на некаторых аспэктах дзейнасьці Кангрэсавага Камітэту.

Наш Камітэт належыць да Цэнтральнай і Усходнеэўрапейскай Кааліцыі, у склад якое ўваходзяць арганізацыі этнічных групаў Амэрыкі, якія аб'ядналіся, каб больш эфэктыўней узьдзейнічаць на палітыку Злучаных Штатаў у дачыненьні да новаствораных дзяржаваў былога Савецкага Саюзу і дэкамунізаваных краінаў калішняга Варшаўскага пакту. Кааліцыя ўключае 12 этнічных групаў — беларусаў, армянаў, баўгараў, латышоў, літоўцаў, мадзяраў, палякаў, румынаў, славакаў, украінцаў, чэхаў і эстонцаў. На паседжаньнях членаў кааліцыі абмяркоўваюцца пытаньні палітычных і эканамічных дачыненьняў паміж Злучанымі Штатамі і новымі дзяржавамі і захады, якія Кааліцыя ўзялася рабіць і робіць перад урадамі і Кангрэсам Амэрыкі, каб дапамагчы гэтым новым дзяржавам.

Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі таксама належыць да Дарадчае Камісіі пры Фундацыі для пабудовы мэмарыяльнага камплексу ў памяць ахвяраў камунізму. Гэты мэмарыял будзе пабудаваны ў Вашынгтоне ў наступныя 5-7 гадоў. Праца Фундацыі вельмі складаная, бо за досыць кароткі час трэба знайсьці адпаведнае мейсца і сабраць 100 мільёнаў даляраў з прыватных крыніцаў для пабудовы гэтага важнага камплексу.

Кангрэсавы Камітэт цесна супрацоўнічае зь яшчэ адной усеамэрыканскай беларускай арганізацыяй — Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем, асабліва ў галіне, зноў-жа, палітычных і эканамічных дачыненьняў і дапамогі Беларусі. Напрацягу бягучага году Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі разам з Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем мелі тры спатканьні з прадстаўнікамі Дзяржаўнага Дэпартамэнту, тэмаю якіх была беларуская незалежнасьць і палітычна-эканамічныя пытаньні. Дык вось, як бачыце, працы хапае, была-б толькі энэргія й час.

**Свабода:** Якім быў 1995 год для Беларусі?

**Р.З.:** Для Беларусі 1995 год быў годам няшчасьця, годам няздзейсьненых мараў. Перад выбарамі, кандыдат на пасаду першага беларускага прэзыдэнта абяцаў нашаму народу залатыя горы — пуск на поўную магутнасьць беларускіх фабрыкаў і заводаў, ліквідацыю беспрацоўя, паніжэньне інфляцыі, ліквідацыю карупцыі і бандытызму. Пасьля выбараў прэзыдэнта, ніякага палепшаньня ва ўсіх пералічаных галінах народнага жыцьця ня толькі не заўважаецца, а наадварот, эканамічнае становішча ў Беларусі пагоршылася, а ў палітычным аспэкце паводзіны прэзыдэнта ўсё больш і больш становяцца дыктатарскімі. У цяперашнім беларускім урадзе пануе пагарда да беларускае гісторыі, беларускіх звычаяў, беларускае мовы. Урад трымаецца ленінскае догмы, згодна з якой эканоміка мае перавагу над грамадзкай сьвядомасьцю. Народу-ж яшчэ больш прывіваецца пачуцьцё абыякавасьці і хварабітае цягі да патэрналізму і рабскае псыхалёгіі. Усё гэта робіцца для таго, каб ураду было лягчэй кіраваць ня толькі паводзінамі, ала й розумам нашага народу. Не дарма-ж беларускі прэзыдэнт захапляецца нацысцкім супастатам Гітлерам, у якога ашуканства і гвалт былі галоўнаю рухаючаю сілаю. Хочацца-ж, аднак, верыць, што нававыбраны беларускі парлямэнт зможа не дапусьціць да аднаўленьня ані бальшавіцкае ані гітлераўскае дыктатуры на нашай Бацькаўшчыне.

## ПРА ДЗЕЯЧОЎ У ДРУКУ

«Сьвятая Чарнобыля» — гэта загаловак вялікага артыкулу ў газэце «Аттава Сытызэн» (Грамадзянін Атавы) за 30 сьнежня 1995 году, які быў прысьвечаны працы й грамадзкай дзейнасьці спадарыні Івонкі Сурвілла.

Знаны журналіст Дон Кампбэл дакладна апісаў дзейнась Івонкі Сурвілла прысьвечанай дапамозе ахвярам чарнобыльскае трагэдыі ў Беларусі. У артыкуле пададзеныя біяграфічныя дадзеныя сям'і Сурвіллаў, іх грамадзкая дзейнасьць, ды надзвычай вялікая праца Канадзкага Камітэту Дапамогі Чарнобылю, у якім Івонка Сурвілла ёсьць душой ды дзейным рухавіком усяе справы. Сп. Дон Кампбэл дае гэткую статыстыку, як ілюстрацыю памеру дапамогі, якую вядзе Канадзкі Беларускі Камітэт (Фонд) Дапамогі: у 1991 годзе зь Беларусі ў Канаду падлячыцца і адпачыць прыехала група дзяцей з 79 асобаў, у 1995 годзе дзяцей на летні адпычанак прыехала 410, а сёлета, як выглядае, адзначае журналіст, дзяцей зь Беларусі прыедзе яшчэ болей. Канадзкі журналіст пазваніў таксама ў Менск ды папытаў пагляд на Івонкаву дзейнасьць на Беларусі. І вось прафэсар Анатоль Храмчэнкаў, адзін з працаўнікоў праграмы «дапамога Чарнобылю» сказаў гэтак: я падзіўляю, як шмат можа адна асоба зрабіць дабра. Ейная ўся праца выходзіць ад шчырага сэрца і Івонка ствarae Беларусі праменьні сонечнага сьвятла, якое праходзіць праз хмары, якія вісяць над Беларусьсю так доўга.»

## ЗАХОДНЯЯ ПРЭСА

(Працяг з 1-й б.)

мела падзея забароны свабодных прафсаюзаў, а выказваньні сп. Лукашэнкі аб Гітлеру і гітлераўскай мадэлі для Беларусі, паставілі заходніх журналістаў перад пытаньнем: ці тое, што кажа і робіць прэзыдэнт Беларусі можна залічаць у катэгорыю нармальных падзеяў? За апошнія месяцы ў заходнім друку зьявілася некалькі трапных аналізаў захаваньня сп. Лукашэнкі і што гэта можа азначаць для будучыні Беларусі.

Адным з такіх цікавых аналізаў прэзыдэнта Беларусі, зьявіўся артыкул знанага журналіста, супрацоўніка маскоўскага бюро уплывовае газэты «Глоўб анд Майл» (за 27 студзеня сёлета) спадара Джэфры Ёрк пад загалоўкам «Прэзыдэнт Беларусі знаходзіць, што павагу здабыць ня так проста». Журналіст аналізуе захаваньне спадара Лукашэнкі да прэсы, ягонае жаданьне кантраляваць дзяржаўную прэсу ды забараніць прэсу свабодную. Прэзыдэнт у дачыненьні да прэсы баязьлівы, напружаны, непрадбачальны. Наагул, у заходнім друку ў дачыненьні да сп. Лукашэнкі ўсталяваўся пагляд, што ён непрадбачальны ні ў чым, няпэўны ў сабе, без ніякае падрыхтоўкі быць добрым кіраўніком, адміністратарам, ды ў ніякім выпадку ня можа быць лідэрам. Назіральнікі падкрэсьляюць, што ён злапамятны, акаляе сябе ўвесь час новымі людзьмі, вялікай ахаронай. Прэзыдэнт Беларусі, так піша не адзін заходні журналіст, нэрвовы ў дачыненьні да Вярхоўнага Савету, хацеў бы быць аўтарытэтным дыктатарам, але не мае на гэта ні падставаў ні здольнасьцяў.

Газэта Уол Стрыт Джорнал (Эўрапэйскае выданьне) нядаўна зрабіла гэткія падсумаваньні палітычнага стану на Беларусі: паступова Беларусь пры сёньняшняй уладзе становіцца дэстабілізуючым фактарам у Усходняй Эўропе; умоўная дэмакратыя ў рэспубліцы відавочная — парушаныя першыя асновы дэмакратыі — свабодныя выбары (нядаўнія выбары у Беларусі праходзілі ва ўмовах цэнзуры, эканамічнага прэсінгу, заблытанасьці). У рэспубліцы ствараюцца ўмовы ненармальныя для разьвіцьця эканомікі, спрыяючага прагрэсу заканадаўства, штучнае валютнае палітыкі. Беларусь названая «краінай з пацёмкінскай дэмакратыяй».

Заходні друк вырабіў у дачыненьні да сёньняшняй палітычнай сытуацыі на Беларусі і прэзыдэнта гэткі пагляд: у рэспубліцы назіраецца цімала камічных падзеяў і здарэньняў ды прэзыдэнт Беларусі гэткай сытуацыі добра памагае. Але трагічнасьць сытуацыі палягае ў тым, што Беларусь, як палітычная адзінка застаецца далей і далей ззаду і ад сваіх суседзяў і ад прагрэсыўнага сьвету.

**Аглядальнік**

## «ГАСУДАРСЬЦЬВЕНАЯ КАЗКА»



*'Трэснула. Пацякло. Эй, рот*
*загружай!*
*Да рота паднось!*
*І жаўток,*
*І бялок*
*У жывот.*
*Паплылі.*
*Вось гэта і ёсьць*
*Рай*
*На зямлі!*
*(Верш 'Яйка' з кнігі Алеся Наўроцкага*
*'Неба ўсьміхаецца маланкаю')*

Атрымалі на Каляды зь Менску віншавальную паштоўку. Урамаваная ў зімовы арнамэнт карціна мастака Артура Клінава 'Чаяваньне' ('Чаепитие')*. Зусім пасямейнаму, на фоне свайго німбу Ляксандр Рыгоравіч сядзіць за сталом, трымае справядлівай мужыцкай рукой піялу з чаем і ці то адпіць думае, ці то прамовіць. Хутчэй адпіць, бо юрлівае вока косіць кудысь за самавар. Не адзін, відаць, бацька. А стол поўны усякага дабра, — булкі, пірагі, віно і вінаград. Нахабная котка пажадліва трэцца аб прэзыдэнцкі пінжак, як аб плот. Сюжэт цёплы, амаль дачны, вядомы ў Расеі і ў астатнім сьвеце яшчэ з карціны 'Чаепитие в Мытищах'. Ды толькі некаторыя мастацкія дэталі пярэчаць зацёртай клясычнасьці, выкрываюць уяўнасьць спакою. Зялёныя і дуб і ясень, а гусі ўжо кудысьці мкнуць, ляцяць. Куды?... Ці вектар той?... Таму Наш мусіць быць гатовы зноў ісьці ў бой. Вось толькі сэрб-ане гарбаты...

**Алеся Сёмуха**

* Артур Клінаў — адзін зь лідэраў менскіх мастакоў-маргіналаў 80-х гг. Асноўная тэма мастака — Менск, як горад з гвалотоўна адабранай гісторыяй і занядбанай культурай, дзе жывуць застрашаныя і безабаронныя людзі, але родзяцца міты-фантомы. Героі карцін Клінава — антыгероі.

*(Паводле арт. В. Капёнкінай 'Мінск як падсьвядомасьць', час. 'Мастацтва', '#10, 1995).*

## З АРХІВАЎ ЗАМЕЖЖА: ЛІСТЫ МІКОЛЫ РАВЕНСКАГА

Працуючы ў беларускіх архівах, трапляеш на матэрыялы, што асьвятляюць па-новаму асобныя падзеі ці постаці. У нашым друку ўжо пісалася пра «дванаццатку», разьвіцьцё студэнцкага руху неўзабаве пасьля выезду зь лягероў ДП. Для адных, маладзейшых, тое было бадай што пачаткам — студыяваньне, лекцыі, новы, вялікі сьвет. Ім было лягчэй. Другія, старэйшага веку, як кампазытар Мікола Равенскі, мусілі адаптавацца да іншага жыцьця. Як сустрэне іх сьвет з другога боку заслоны, дасьць ці забярэ, дапаможа ці загубіць — тысячы падобных пытаньняў не давалі ўначы спаць выгнанцам.

**Мікола Равенскі** зь цяплынёй і ўдзячнасьцю гаварыў пра жыцьцё ў Лювэне і магчымасьцях плённай творчай дзейнасьці: «Шчасьлівыя-ж тыя людзі, якія разьвязаліся зь лягерным жыцьцём, а хто-ж яшчэ там застаўся, адчувае сябе дрэннавата ня толькі ў адносінах забесьпячэньня, а і наагул — сумна. У катэгорыю шчасьлівых далучаю й сябе. Пераездам у Бэльгію цалкам задаволены, бо такіх умоваў, якімі тут карыстаюся, я ўпэўнены, не знайшоў-бы ні ў адной іншай краіне. Галоўнае-ж — тое, што працую па фаху і да гэтага пры добрых і спрыяльных абставінах; дык адсюль і вынікі добрыя.

За гэты час майго бытаваньня ў Бэльгіі шмат чаго зрабіў як у творчасьці, так і ў рабоце з ансамблем. У сучасны момант я заняты працай над складаньнем зборніка беларускіх песьняў. Праца, у асноўным, закончана, і вядуцца перагаворы з друкарнямі накont яго выданьня.

Асабліва-ж вялікая праца праведзена з ансамблем. Штодзённая трэніроўка, як агульная, так і індывідуальная, дала вельмі добрыя вынікі. Дзякуючы гэтай працы і, можна сказаць, аддананасьці да яе нашага студэнтства, дасяглі значна высокай мастацкай якасьці ў выкананьні. Зь першага выступу на канцэрце ў Лювэне ансамбль рэпрэзэнтаваў сябе перад цаніцелямі мастацтва, як адзінку вышэй аматарскай. А ў сучасны мамэнт ён стаў ужо на больш высокую ступень мастацкага выкананьня.

Апошні наш выступ адбыўся ў Льежы 26 сакавіка ў агромнай залі (каля тысячы мейсцаў) пры поўным зборы. Гэты канцэрт арганізавала ІМКА пад шыльдай паказу бэльгійцам народнай песьні розных нацыянальнасьцяў «з-за зялезнай заслоны». Фактычна-ж гэта быў конкурс на лепшае выкананьне. У канцэрце прынялі ўдзел: бэльгійцы, украінцы, расейцы, казакі, ну і мы, беларусы. Бэльгійцы выставілі свае лепшыя артыстычныя сілы, якія паказалі свае выдатныя галасы і высокамастацкае выкананьне. Нажаль, абышлі народныя песьні, як відаць, гэты бок у іх досыць слабенькі. Украінцы ніядрэнным хорам выканалі свае народныя песьні, але іхнія танцы — на больш высокім узроўні выкананьня, чымся сьпевы. Расейцы — слабавата, не дапамаглі ім ні сарафаны, ні ўборы баярышняў. Казакі выступілі зусім неарганізавана і няцікава. Штось-ж да выступу беларусаў, дык можна ганарыцца, адразу, амаль зь першае песьні, паказалі себя выдатнікамі. Мастацкае выкананьне ў сувязі з прыгожымі мэлёдыямі песьняў, ды да гэтага ў складанай апрацоўцы, змусіла загаварыць аб якасьці ня толькі залю, а і саміх удзельнікаў канцэрту. Бісіравала заля, бісіравалі закулісы. З усіх бакоў чуецца гутарка пра беларускі ансамбль.

Сам кіраўнік быў так захоплены песьнямі і выкананьнем, што зараз-жа заангажаваў нас на тры канцэрты. Бэльгійскім артыстам таксама вельмі спадабаліся нашыя песьні, і яны зьвярнуліся да мяне з просьбай напісаць колькі сольных і для жаночнага квартэту рэчаў для выкананьня па радыё і на канцэртах. Просьбу іхнюю я паабяцаў выканаць, над гэтым цяпер і працую. Са свайго-ж боку, яны абяцалі бясплатна выступаць у нашых канцэртах.

Прымалі таксама ўдзел у богаслужэньні ў касьцёлах Брусэлю. Апошняя багаслужба адбылася пры ўдзеле прускага нунцыя. Пасьля службы я быў прадстаўлены яму як прафэсар музыкі, атрымаў ад яго павіншаваньне з посьпехам і падзяку за ўдзел, а таксама падкрэсьліў, што яму спадабаліся нашыя царкоўныя напевы.

Як бачыце, справа — дзякаваць Богу. Мяне гэта вельмі радуе і надае яшчэ больш энэргіі да працы. Афішыруюць мяне ў якасьці прафэсара, так што цяпер выходзіць, што я ўжо ня проста Міколка, альбо «Міколка-рыбалоў», а «Міколка-прафэсар». Вось яно!».

*(Зь ліста Міколы Равенскага да Лявона Савёнка ад 2 красавіка 1951 году. Архіў БІНіМ'а, Нью-Ёрк)*

Наагул, эміграцыйны пэрыяд быў вельмі плённы ў творчасьці кампазытара Міколы Равенскага. У сваім «Жыцьцяпісе» ён адзначае: «На эміграцыі мною апрацаваны для хору шэраг беларускіх народных і скаўцкіх песьняў, малых харавых твораў і твораў для жаночага ансамблю. Зь вялікіх рэчаў: фантазыя для скрыпкі і фартэпіяна, фартэпіянная трохгалосная фуга «На выгнаньні». Узноўлены: «О Беларусь, мая шыпшына!», арыя Браніславы з опэры «Браніслава» (тэкст Уладзімера Дубоўкі), беларуская калыханка для жаночнага квартэту і фартэпіяна, «Мой родны кут» — дуэт для жаночных галасоў і фартэпіяна, арыя «Ноч над Менскам» (словы Уладзімера Дубоўкі), тры оды для мужчынскіх галасоў, «Слуцкія ткачыхі» для хору, сола барытона і фартэпіяна. Апрацаваны народныя песьні: «Чаму-ж мне ня пецьʼ?», «Ты, чырвоная каліна», «Дарагая мая старонача», «Песьня бабыля» ды шмат іншых твораў, усе яны ў суправаджэньні фартэпіяна. Узноўлена з апэрэты «Залёты» песьня Сабковіча «Маю грошы, маю я...». Апрацавана народная песьня для голасу і фартэпіяна «Чалавек жонку б'е, бічуе...». Сабрана 270 беларускіх народных песьняў. Падрыхтаваны для друку зборнік народных беларускіх песьняў і ўласных твораў на словы беларускіх паэтаў, якія складаецца зь 75 нумароў».

*(Мікола Равенскі «Жыцьцяпіс». Рукапіс. Архіў Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага, Нью-Ёрк)*

**Л. Юрэвіч**

## ВЕСТКІ ЗЬ ВІНІПЭГУ



*Сядзяць зьлева направа: Шэлі Грэшчук, Міхась Бурдзь, Бонні Грэшчук, Паўла Бурдзь.*

Ад 50-х да 80-х гадоў у Вініпэгу, сталіцы правінцыі Манітобы ў Канадзе, была беларуская арганізацыя, якая у свой час адыгрывала значную ролю. Да дзейных сяброў яе належалі й два браты Бурдзі. Старэйшы Ян Бурдзь жанаты з былой вучаніцай сярэдняй школы, ды сяброўкай Зьвязу «Сёстры вогнішча», жаночнага скаўцкага Сьцягу ў беларускім ДП лягеры ў Ватэнштэце, ангельскае зоны Нямеччыны. Спадарства Ян і Акляксандра Бурдзі ня раз былі ўдзельнікамі Сустрэчаў Беларусаў Паўночнае Амэрыкі.

Малодшы брат Паўла Бурдзь, ведамы спарцмэн, што ня раз здабываў першае мейсца ў сусьцягах гульняў у пінгпонг. Абое браты Бурдзі, і дачка Яна удзельнічалі у, ладжанай Кардынацыйным Камітэтам Беларусаў Канады ў 1991 годзе ў Таронта, 2-ой Канфэрэнцыі Прадстаўнікоў Беларускага Грамадзтва Канады.

Спадарства Паўла й Ірэна Бурдзі наведалі сёлета Беларусь. Дзякуючы асабліва спадарыням Тацьцяне Сьвятловіч, і Тацьцяне Лецка, яны мелі нагоду наведаць Менскія музэі, галярэі мастацтва, опэру балет; кантактавацца із спартовымі дружынамі. Дазналі прыветлівасьці здольнай беларускай моладзі, якая сустракала іх песьняй і музыкай.

Вярнуўшыся ў Канаду і дома засталі добрую вестку. Справілі заручыны сына Міхася іх спадарышняй Боні Грэшук. А сын Міхась не абы хто, ён псыхалёг, мае навуковую ступень доктара фолязофіі, працуе як псыхалёг у правінцыяльнай адміністрацыі, ды ў сваёй клініцы. Вясельле заплянавана на жнівень.

Вось жа ад імя сяброў управы Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады вітаем Вас, спадарышня Шэлі й доктар Міхась із заручынамі, ды жадаем Вам і Вашым бацьком сьветлае, шчасьлівае будучыні!

Хай жа ў правадным сузор'і Вашага жыцьця ярка сьвеціць Вам і зорка Беларусь!

**Раіса Жук-Грышкевіч**

## ПАГЛЯД НА БЕЛАРУСЬ У ВАШЫНГТОНЕ

19 студзеня сёлета ў Вышэйшай Дыпляматычнай Школе філіялу унівэрсытэту Джона Гопкінса ў Вашынгтоне адбылася сустрэча з шэфам кіеўскага бюро газэты "Вашынгтон Пост" спадаром Джымам Рупэртам. На сустрэчу была запрошаная Асацыяцыяй Украінцаў у Вашынгтоне і я, як прадстаўнічка ад беларусаў. Хоць тэма спатканьня была — палітычны і эканамічны стан на Украіне — аб чым гаварыў сп. Рупэрт, было выказана колькі паглядаў і думак пра сёньняшнюю Беларусь. Паводля выказваньняў сп-ра Рупэрта, што найболей адрозьнівае палітычны клімат на Украіне ад стану на Беларусі, дык гэта тое, што на Украіне выразна скрышталізаваны пагляд на тое, што азначае быць украінцам і на патрэбу мець незалежную украінскую дзяржаву.

У Беларусі-ж гэткі пагляд не скрышталізаваны, пачуцьця патрэбы незалежнай беларускай дзяржавы не вычуваецца. На пытаньне спадару Рупэрту — «ці нешта пагражае Украіне як незалежнай дзяржаве» — дакладчык адказаў, што сёньня украінская палітыкі і масы добра ведаюць, што патрэбна украінскаму народу і, на яго думку няма небясьпекі, што украінскае дзяржавы ня будзе — яна будзе». А вось на Беларусі, вёў сп-р Рупэрт, сытуацыя інакшая: існуе сурёзная пагроза, што Беларусь ператворыцца ў васальную рэспубліку, залежную ад Расеі.»

На мой пагляд, адведаючы Менск, спадар Джым Рупэрт, вычуў тое, што вычувалі беларускія эмігранты раней, і што адчулася нам, амэрыканцам беларускага паходжаньня: беларускасьць недастаткова укаранёная ў народзе. Сёньняшнія улады на Беларусі беларускасьці аніяк не спрыяюць. Трэба, каб сёньняшні парлямэнт Беларусі, дзяржаўная адукацыйная сыстэма, праўнікі задумоўваліся аб беларускасьці Беларусі, праводзілі-б яе ў жыцьцё, калі яны жадаюць існаваць як незалежная беларуская дзяржва. Бясспрэчна, што будучыня Беларусі, як незалежнай дзяржавы, зь якой будуць лічыцца, у руках кіраўніцтва.

**Алеся Кіпель**

***Да ведама грамадзтва***

## БІЯГРАФІІ ЭМІГРАНТАЎ

Навукова асьветны цэнтр імя Ф. Скарыны супольна з выдавецтвам «Беларуская Энцыклапедыя» ужо ад некаторага часу рыхтуе збор эміграцкіх біяграфіяў. Даведнік будзе такі-ж, як і слоўнік «Беларускія пісьменьнікі». Ніякай платы ад тых, хто будзе ў даведніку, выдаўцы не патрабуюць. Падаём пра гэта да ведама ў сувязі с тым, што апошнім часам у Менску зьявілася ініцыятыва выдаць падобны даведнік з аплатай выданьня самымі эмігрантамі.

**Навукова-асьветны цэнтр імя Ф. Скарыны**

*З жыцьця ў Кліўлендзе*



*Дзеці пры ялінцы ў Полацку, якую ладзіла парахвія Божае Маці Жыровіцкае ў Кліўлендзе.*

## ЯЛІНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Парахвіяльная Рада Жыровіцкае Божай Маці ў Кліўленд, як і кожнага году, наладзіла ялінку для дзяцей, якая адбылася на Каляды ў нядзелю 7 студзеня 1996 г. Цяпер у парахвіі налічваецца 43 дзяцей. Сьвяткаваньне адбывалася ў Полацку.

У прагараме дня быў пачастунак для дзяцей й старэйшых. Другую частку праграмы вёў Міша Дунец, заступнік старшыні рады, які, прывітаўшы дзяцей і прысутных, сабраў дзяцей каля ёлкі, правёў зь імі кароткую гутарку, а затым прыйшоў Дзед Мароз з падарункамі. Прывітаўшы дзяцей, ён нешта расказаў, прасьпяваў разам зь дзецьмі амэрыканскія калядкі, а тады раздаў усім падарункі. Гэта быў найбольш радасны, вясёлы й цікавы мамэнт для дзяцей. Падарункі былі ад парахвіі, бацькоў, родных і знаёмых. Падзяка тут належыць за добрае наладжаньне Парахвіяльнай Радзе й бацьком, родным і ўсім прысутным за падтрымку ды ўдзел.

## КАЛЯДНАЯ КУЦЬЦЯ

Парахвіяльная Рада Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленд, Агаё сёлета наладзіла супольную куцьцю, якая адбылася ў суботу 6 студзеня а 8.00 гадзіне пасьля службы вялікага павячэр'я ў царкоўнай залі, якая была ўпрыгожаная калядная дэкарацыяй зь ялінкай, а на сталох былі запаленыя сьвечкі. Каля ялінкі — розныя посныя стравы, якіх налічвалася больш за 12 і кожную страву рыхтавала адна жанчына.

Пасьля службы, настаяцель Міхась Страпко адчыніў ўрачыстасьць, расказаў коратка пра яе традыцыю й вялікае рэлігійнае значэньне, паблагаславіў стравы, а ўсе разам прасьпявалі трапар Раства Хрыстовага. Затым старэйшыя дзяліліся ўспамінамі: як абыходзілі куцьцю раней у Беларусі. Павячэраўшы, царкоўны хор з прысутнімі прасьпявалі беларускія калядкі і у вясёлым сьвяточным настроі разышліся пазнавата. За добрае й багатае наладжаньне сьвята, падзяка парахвіяльнай радзе, а таксама вялікая падзяка жанчынам за смачныя стравы, улучаючы стравы з баравікамі зь Беларусі.

## СПАТКАНЬНЕ НОВАГА ГОДУ

Аддзел БАЗА ў Кліўленд, Агаё наладзіў спатканьне Новага 1996 году, якое адбылося 31 сьнежня 1995 г. вечарам у залі Грамадзкага Цэнтру Полацку. Праграма спатканьня складалася зь вельмі багатай вячэры з напіткамі й танцаў. Заля была ўпрыгожаная калядными арнамэнтамі, што ствараla сьвяточны настрой. А 12.00 ночы ўсе разам паднялі тост, жадаючы ўзаемна добрага здароўя й шчасьлівага й плённага Новага Году. Апрача прысутных з беларускае калёніі, бальшыня гасьцей была зь іншых цэркваў і арганізацыяў. Усіх разам каля 250 асобаў.

К.П.

## ДЗЕД МАРОЗ У ГАЙЛЯНД ПАРКУ, НЬЮ-ДЖЭРЗІ

У нядзелю 14 студзеня ў залі царквы Сьвятое Маці Жыровіцкае адбылася Калядная ўрачыстасьць для дзяцей парахвіі ды гасьцей з бліжэйшых мясцовасьцяў. Адчыніў урачыстасьць настаяцель парахвіі айцец Васіль, а вёў імпрэзу д-р Юрка Кіпель. Ён пагутарыў зь дзецьмі пра звычаі адзначэньня Калядаў, спытаў у дзяцей, як яны ведаюць беларускія калядкі ды запрасіў старэйшых дапамагчы ў сьпяваньні калядак.

Потым гучна, ўсе разам, дзеці дарослыя, гукалі Дзеда Мароза, які неўзабаве прыйшоў зь вялікімі мяхамі падарункаў. Дзед Мароз — Віктар Тур, прывітаўся зь дзецьмі пабеларуску, дзеці паўтарылі ўсьлед за ім колькі калядных вітаньняў ды цалкам сканцэнтраваліся на цырымоніі раздаваньня падарункаў.

Урачыстасьць прайшла ў вельмі прыемнай атмасфэры ды былі сьвятам задаволеныя і малыя і старэйшыя. Дырэчы, не глядзячы на сьнежныя дні, колькасьць гасьцей была вельмі значная ды асабліва цешыла вялікая, некалькі дзесяткоў, грамада дзяцей. Ялінку арганізаваў мясцовы аддзел БАЗА ды падзяка належыцца арганізатарам: Юрку і Лёрэйн Кіпель, Віктару і Лілі Турам, Ноне Азарка ды дарадніку спадару Янку Азарку.

# ЛЁС МОВЫ ІДЫШ І ІНСТЫТУТ ГЭБРАЙСКІХ ДОСЬЛЕДАЎ «ІВО»

На працягу стагодзьдзяў мова ідыш заставалася сымбалем выгнаньня, успрымалася толькі як сродак камунікацыі й ніколі — як каштоўнасьць у сабе (і, дадамо, падобнае да адносінаў беларусаў да сваёй мовы нават сёньня). Апошняе, зрэшты, ва ўсіх этнасаў пачало выяўляцца толькі ў Новым часе. Натуральна, што і ўся культура ашкеназскага (эўрапэйскага) гэбрайства, за выняткам хіба толькі рэлігійнага яе сэктару, гэтаксама заставалася ў ценю калектыўнага ўсьведамленьня велічы біблійнага пэрыяду гэбрайскай гісторыі і «ўспамінаў» пра патрыярхаў і прарокаў. Дарэчы, і самая гісторыя нібы спынілася пасьля разбурэньня Другога ерусалімскага храму, чакаючы свайго працягу на прыйсьцю Машыяха.

Узьнікненьне сучасных нацыяў, Асьвета і яе гэбрайскі аналаг — Гаскала, эрозія гэбрайскіх грамадзкіх і рэлігійных структураў як камбінаваны вынік пашырэньня і рацыяналізму, і містыцызму, пачалі мяняць стаўленьне пэўных асяродкаў гэбрайства да сваёй культуры. Ад незаўважаньня справа перайшла да адмаўленьня ад яе на карысьць культуры пануючага грамадзтва. З часам нованароджаная кляса гэбрайскіх інтэлектуалаў Сярэдне-Усходняй Эўропы ўсё часьцей пачала зьвяртаць свае пагляды на народную культуру, штораз болей знаходзячы ў ёй крыніцу натхненьня або аб'ект досьледаў. Значна пашыралася літаратура на ідыш, газэты, рабіліся захады па нармалізацыі літаратурнай мовы.

Нягледзячы на ўсё гэта, стыгма мовы ідыш — «жаргону», успрыняцьце народнай культуры, як ніжэйшай і нязначнай, трывала надалей. У выніку разьвіцьця грамадзка-палітычных рухаў сярод сярэдне-усходне-эўрапэйскага гэбрайства паўстала пытаньне аб мове, якая б аб'ядноўвала ўсё грамадзтва. Пісьменьнік і філёзаф Натан Бірнбойм прапанаваў ідэю міжнароднай, міжпартыйнай канфэрэнцыі, якая б вызначыла ролю ідыш у гэбрайскім жыцьці. Быў створаны аргкамітэт у Нью Ёрку ў складзе Бірнбойма, філёзафа Жытлоўскага, драматургаў Якава Гордзіна і Давіда Пінскага, і выдаўца А. М. Еваленкі. 30 жніўня 1908 г. у Чарнаўцах (Букавіна, у тагачаснай Аўстра-Угоршчыне) сабраліся 70 дэлегатаў, якія прадстаўлялі ўсе кірункі ад сіяністаў-гэбраістаў да бундыстаў. Сярод іх былі пісьменьнікі І.Л. Перац, Абрам Рэйзен, Шолэм Аш, Г. Номберг, філёлягі Ноях Прылуцкі, Мацей Мізэс, Мардэхай Спектар, журналіст Г. Бадэр, дзяячка Бунду і літаратарка Эстэр (Малка Ліфшыц-Фрумкін). Хоць два вядучыя пісьменьнікі на ідыш, Мендэле і Шолам-Алейхем, не змаглі прыехаць, але выказалі цалкавітую падтрымку мэтам канферэнцыі. Парадак дня канфэрэнцыі ўключаў выказваньні ў падтрымку правапісу, граматыкі, літаратуры, тэатру, друку, перакладу Бібліі на ідыш, і перш за ўсё — абвяшчэньне ідыш нацыянальнай мовай гэбрайскага народу. Узьнікла спрэчка паміж дэлегатамі, якія прызнавалі гэбрайскую мову адзінай нацыянальнай мовай, і тымі, хто лічыў ідыш жывой сучаснай мовай, а гэбрайскую — мовай мінулага і мовай малітваў. Пасьля доўгіх дэбатаў быў дасягнуты кампраміс. Ухвала канферэнцыі абвяшчала ідыш адной з нацыянальных моваў гэбраяў і заявіла аб яе палітычнай, культурнай і сацыяльнай роўнасьці з усімі іншымі мовамі.

На той час ідыш ужо шырока выкарыстоўвалі ў культурным жыцьці на ўсім ўсходне-эўрапэйскім абшары, не кажучы ўжо пра штодзённы яе ужытак, як мовы пераважнай большасьці ашкеназскіх гэбраяў.

У 1925 годзе група інтэлегентаў і навукоўцаў вырашыла стварыць арганізацыю, якая стала-б своеасаблівай акадэміяй ідышысцкай культуры. 7-20 жніўня 1925 году ў Бэрліне адбылася канфэрэнцыя гэбрайскіх навукоўцаў, на якой быў заснаваны Гэбрайскі Навуковы Інстытут, які па сваёй абрэвіятуры ў мове ідыш пачаў называцца ІВО. Задачы інстытуту, выкладзеныя ў брашуры Нохема Штыва «Арганізацыя гэбрайскай навукі» (1925), уключалі ўдзел гэбраяў ў навуковых досьледах на сваёй собскай мове і азнаямленьне гэбраяў з дасягненьнямі сусьветнай навукі. Штыф прапанаваў каардынаваць у межах новай арганізацыі плянаваньне і правядзеньне вынікаў гэтых досьледаў. Такім чынам меркавалася, што асобна ўзятыя навукоўцы будуць мець агульную плятформу досьледаў, а гэбрайскія арганізацыі — аўтарытэтны інфарматыўны матар'ял для сваёй дзейнасьці.

Месцам для новастворанага інстытуту была абрана Вільня, славуты культурны цэнтар беларуска-літоўскага гэбрайства, слаўны традыцыямі рэлігійнага і грамадзкага жыцьця на працягу соцень гадоў. Каля трэцяй часткі насельніцтва Вільні складалі гэбраі, пераважна неасіміляваныя ні ў расейства, ні ў польскасьць. Для ўсіх, хто браў удзел у дыскусіях пры заснаваньні ІВО, было ясна, што Інстытут не зможа існаваць у касмапалітычным горадзе Захаду, не маючы значнай колькасьці энтузіястаў, рук і галоваў, прагнучых працаваць на карысьць свайго люду, словам, асяродку, які можна было знайсьці (прынамсі так арганізатары спадзяваліся) толькі сярод шырокіх масаў, што размаўляюць на ідыш.

Рухавіком праэкту стаў лінгвіст Макс Вайнрайх (1894-1969), адзін з найвялікшых экспэртаў па ідышысцкім мовазнаўстве. Яму належала стварэньне далейшых стратэгічных канцэпцыяў Інстытуту, дырэктарам якога ён стаўся ад моманту заснаваньня.

*З жыцьця ў Чыкага*

## КАЛЯДНІ ФЭСТЫВАЛЬ



*Маладняк дапамагае дэкараваць ялінку: Тамі Кучура і Джані Кэр (вышэй).*

Сталася ўжо традыцыяй нацыянальных групаў гораду Чыкага удэкароўваць «свае» ялінкі ў калядні сэзон у ведамым Музэі Навукі і Індустрыі. У тым самым часе нацыянальныя групы маюць магчымасьць выступаць ды азнаямляць шырокае амэрыканскае грамадзтва з каляднімі звычаямі краіны свайго паходжаньня. Сёлетні Калядні фэстываль у Чыкага пачаўся 3-га лістапада 1995 году ды трываў да 1-га студзеня 1996 году. Удзел у фэстывалі ўзялі 44 нацыянальнасьці. Беларускі Каардынацыйны Камітэт гораду Чыкага бярэ ўдзел у гэтай імпрэзе ўжо 18 гадоў ды прыбраў беларускую ялінку 28 кастрычніка. Сёлета калядная ялінка дэкаравалася абноўленымі ды зусім новымі упрыгожаньнямі, бо напрацягу колькіх апошніх фэстываляў гледачы часта бралі, здымалі экспанаты, некаторыя цацкі ламаліся, забруджваліся і іх трэба было аднавіць.

Мастацкія беларускія выступы ў сёлетнім сэзоне улучалі паказ слайдаў зь дзейнасьці Беларускага Каардынацыйнага Камітэту, што выклікала зацікаўленьне наагул дзейнасьцю беларусаў у ЗША. Аб колькасці наведвальнікаў гэткіх фэстываляў гаварыць не прыходзіцца — іх дзесяткі, а мо і сотні тысячаў. Часта наведваюць фэстываль і госьці зь Беларусі ды яны наракаюць, што аздабленьняў для ялінак з нацыянальнымі матывамі на Беларусі сустрэнеш не часта.

Сёлетнюю ялінку прыбіралі ды рыхтавалі упрыгожаньні сп-ня Людвіка Беленіс, яе сестра сп-ня Ірэна Пануцэвіч — нашыя заслужаныя майстры беларускіх упрыгожаньняў, сп-р Нікадэм Жызьнеўскі, сп-ства Вера і Вітаўт Рамукі ды маладняк — Джоні Кэр і Тамі Кучура. Як і мінулымі гадамі ўсе удзельнікі фэстывалю ды арганізатары атрымалі шчырую падзяку ад Музэю Навукі і Індустрыі ў Чыкага, а беларуская грамада выдатнае задавальненьне, што нашая культура добра рэпрэзэнтуецца на амэрыканскім кантынэнце.

**Д-р Вітаўт Рамук**

# ЛІТАРАТУРНАЯ СПАДЧЫНА: НОВЫ ЎГЛЯД

*(Рубрыку вядзе Лявон Юрэвіч)*

Беларуская літаратура, створаная ў ЗША й Канадзе, Нямеччыне й Ангельшчыне, Аўстраліі ды Францыі, агульна кажучы, на эміграцыі, непараўнальна багацейшая за ўяўленьне пра яе. Яна, як той айсбэрг, бачна толькі збольшага, астатняе-ж прыхавана ў расьцярушаных часапісах, архівах, нашай памяці. Рэдакцыя мае намер зьмяшчаць на сваіх старонках малавядомыя ці зусім невядомыя творы паэтаў, якіх мы ведаем і любім, і паэтаў, чые імёны будуць адкрыцьцём для нас. Толькі сабраўшы ўсё разам, зборы твораў і асобныя радкі, мы зможам уявіць, якая яна — гісторыя беларускай літаратуры ў Замежжы. І, напэўна, цалкам апраўдана, што распачынаем мы трапным, але мала ведамым вершам Натальлі Арсеньневай *«Сьветлае памяці Б. Вержбаловіч»*.

> Сьмерць не гасіць сьвятла,
> яна толькі гасіць лямпу,
> бо прыйшло сьвітаньне.
>
> Р. Тагор

*Мы знаем — час плыве, па кроплі*
*кропля, ў змрок.*
*У кволай чары рук яго не ўтрымаеш.*
*Налета — ў цішыні*
*прысадаў і муроў*
*ён расьцьвіце мо зноў,*
*але ўжо іншым маем...*
*Дык так сплялося, што —*
*ці хочацца,ці не —*
*ісьці кудысь ТУДЫ нам*
*з часам па дарозе,*
*Вось мы й брыдзём сабе,*
*а ў плаўкім тумане абапал —*
*то цьвітуць, то адцьвітаюць лозы.*
*Парыпвае, хрумсьціць*
*падмоклы, гойстры жвір,*
*Сабакам верным сьцень*
*туляецца пры боку.*
*І добра...*
*Толькі менш*
*тых зораў у крыві,*
*І зораў уваччу*
*із кожным новым крокам...*
*«Мэмэнто Моры», гуў калісь,*
*загнаны ў кут*
*Жудою нябыцьця,*
*наш сьвет па цёмных норах.*
*Яшчэ й цяпер, парой,*
*на зблытаным утку*
*Бярэ ён зноў снаваць*
*сваё «Мэмэнто Моры».*
*Ды іншыя мы ўжо...*
*У вецер іх зарой*
*імкнемся мы зь вясною зялёнаю у згодзе,*
*Бо ведаем, што хоць калісьці*
*і памром —*
*»Жыцьцё — нішто, як сьмерць,*
*а сьмерць — жыцьцё!»*
*І годзе.*

---

Стварэньне Інстытуту напаткала супраціў польскіх уладаў і фактычны дазвол на яго ўтварэньне быў атрыманы дзякуючы захадам доктара Цэмаха Шабада. Ён быў сэнатарам і сябрам віленскага муніцыпалітэту і, да таго-ж, меў вялікі ўплыў як лекар, маючы сярод пацыентаў усе вяршкі віленскага грамадзтва.

Ад самага пачатку Інстытут імкнуўся зьбіраць і захоўваць гэбрайскі фальклёр, матар'ялы, якія адлюстроўвалі гэбрайскае жыцьцё, вывучаць розныя аспэкты гэбрайскай культуры. У гэтым супрацоўнікі ІВО кіраваліся трыма прынцыпамі — 1. культурнай інтэграванасьцю гэбраяў па ўсім сьвеце, 2. паляпшэньнем долі народу праз вывучэньне ягоных традыцыяў і сучаснага стану, 3. стасаваньнем найбольш сучасных мэтадаў сацыяльных навук у імкненьні да таго, каб лепш зразумець гэбрайскую тоеснасьць і гэбрайскія сацыяльны-групавыя фэномены.

Навуковая і дасьледчая праца праводзілася ў чатырох кірунках, якія былі арганізаваны ў сэкцыі — гісторыі, мовазнаўства й літаратуры, эканомікі й статыстыкі, псыхалёгіі й адукацыі. У сэкцыі гісторыі, на чале якой стаяў Эльяс Чэрыковэр, працавалі гэткія славутыя гісторыкі — выхадцы зь беларускіх земляў, як Шыман Дубнаў (1860, Мсьціслаў — 1941), Шаўл Гінзбург (1866, Менск — 1940), Абрам Менес (1897, Горадня — 1969). Мовазнаўча-літаратурную сэкцыю ўзначальваў Макс Вайнрайх, і супрацоўнічалі ў ёй аўтар шэрагу слоўнікаў ідыш Аляксандар Гаркавы (1863, Наваградак — 1939), крытык Шмуэл Нігер-Чарны (1883, Дукора — 1955), лінгвіст і гісторык літаратуры на ідыш Залман Рэйзін (1887, Койданава — 1941), лінгвіст-дыялектоляг Ноях Прылуцкі, пісьменьнік, лінгвіст і перакладчык Зэлік-Гірш Калмановіч, лінгвіст Юда Іофэ.

На той час існаваў яшчэ адзін цэнтр па вывучэньню ідышысцкай культуры і знаходзіўся ён у Менску. Гэта быў Яўрэйскі сэктар Інбелкульту (пазьней — Беларускай Акадэміі Навук), у якім працавалі выбітныя навукоўцы Мордхэ Вэйнгер, Ізраіль Сосіс, Гілель Аляксандраў, Лэйзар Віленкін, Макс Эрык ды іншыя. Абедзьве навуковыя ўстановы наладзілі добрыя прафэсійныя адносіны, зь цікавасьцю сачылі за разьвіцьцём досьледаў. Працы навукоўцаў з ІВО, гэткіх як Макс Вайнрайх і Залман Рэйзін, друкавалі ў навуковым перыёдыку Інбелкульту «Цайтшрыфт». Выданьні ІВО «Філологішэ шрыфтн» і «ІВО блэтэр» зьмяшчалі інфармацыю пра навуковую дзейнасьць Інбелкульту. Напачатку 1930х гадоў супрацоўніцтва было перарвана кампаніяй супраць «фашызаванага ідышызму», як у Саветах пачалі называць ідышысцкі рух, і перасьледамі навукоўцаў у часы сталінскіх чыстак. Дарэчы, калі Саветы занялі Вільню ў 1939 г., ахвярай рэпрэсіяў стаў Залман Рэйзін, гэтак як Антон Луцкевіч, Янка Пазьняк ды многія іншыя.

Пасьля інкарпарацыі Літоўскай рэспублікі ў савецкую імпэрыю на базе ІВО быў створаны «інстытут гэбрайскай культуры», які мусіў спрыяць саветызацыі «гэбрайскіх працоўных масаў». Тым не менш супрацоўнікі ІВО, да якіх далучыліся навукоўцы-уцекачы з абшараў Польшчы, занятых немцамі, імкнуліся працягваць навуковыя досьледы. У 1941 г. пад нямецкай акупацыяй ІВО ў Вільні канчаткова спыніў сваё існаваньне. Бібліятэка і архіў былі часткава зьнішчаныя, а часткава вывезеныя ў Франкфурт-Майн. Большасьць супрацоўнікаў, як і тысячы іншых гэбраяў Вільні, былі расстраляныя ў Панарах.

Дырэктар Інстытуту Макс Вайнрайх перад самым пачаткам Другой сусьветнай вайны выехаў на канфэрэнцыю ў Данію, адкуль пазьней перабраўся з сям'ёй у ЗША, дзе з 1920х існавала Нью-Ёрская філія ІВО. З пачаткам вайны і наступнай трагедыяй беларуска-літоўскага і ўсяго эўрапейскага гэбрайства Нью Ёрк стаўся новай сядзібай ІВО. Пачаўся новы пэрыяд у гісторыі Інстытуту.

У канцы 1940х былі зробленыя першыя спробы ўвесьці выкладаньне мовы ідыш ва ўнівэрсітэтах Паўночнай Амэрыкі і ў 1953 г. маладым таленавіты навуковец Урыэль Вайнрайх (1926-1967), сын Макса Вайнрайха, быў прызначаны асыстэнтпрафэсарам мовы, літаратуры і культуры ідыш у Калюмбійскім унівэрсытэце ў Нью-Ёрку.

Задачай ІВО зрабілася перахаваньне загінуўшай культуры ўсходнеэўрапейскага гэбрайства для гісторыі. Былі распачатыя праэкты складаньня акадэмічнага слоўніка ідыш (дагэтуль выйшла 4 тамы), і дыялекталягічнага атласу ідыш (першы том — у 1992 г.).

Перашкодай заплянаваным праграмам сталася паступовае звужэньне кола навукоўцаў-ідышыстаў, асабліва пасьля сьмерці бацькі і сына Вайнрайхаў у канцы 1960х, нягледзячы на тое, што цэнтры выкладаньня ідыш утварыліся пры унівэрсітэтах Макгіл (Канада), Огаё, Тэксас, Унівэрсітэце Каліфорніі ў Лос Анджэлас ды іншых мясьцовасьцях. Цяпер досьледы ідыш перанесьліся ў Ізраіль і Англію.

За час працы ІВО было сабрана ў Інстытуце шмат матар'ялаў аб Беларусі, яе насельніцтве і мястэчках. У архіве захоўваюцца матар'ялы аб Менскім кагале, шматлікіх дзеячах гэбрайскай культуры — выхадцах з Беларусі, багатая фотатэка гарадоў і мястэчак Беларусі. Цікавай знаходкай для аўтара гэтах радкоў стаўся шэраг матар'ялаў С. Жытлоўскага — міністра па справах нацменшасьцяў Беларускай Народнай Рэспубліцы, які спрабаваў адстойваць інтарэсы Беларусі з дапамогай гэбрайскіх колаў розных краін міжваеннай Эўропы і Амэрыкі.

Безумоўна, дасьледчыкаў зь Беларусі чакае яшчэ шмат цікавых матар'ялаў, якія лучаць гістарычныя лёсы гэбраяў і беларусоў.

**Віталь Зайка**

# ПАДАРОЖЖА Ў БЕЛАРУСЬ 1995

*(Працяг; пачатак у № 427)*

Канцэрт у Ніжнім Церабежаве, які адбываўся непадалёчку ад месца спатканьня, на адкрытай пляцоўцы — трэці на працягу першага дня нашага падарожжа — сабраў, апрача ўдзельнікаў двух ансамбляў («Верасень» пад кір. Галіны Савіцкай і «Гарынскія папрадухі» над кір. Валянціны Неўдах), і навакольных жыхароў, старых і малых. Песьні, жарты, прыпеўкі, народныя танцы, а на заканчэньне і агульныя танцы. Так разгуляліся і гаспадары і госьці, што ня страшныя былі і камары. Хоць, да слова кажучы, з камарамі ў цэлым нашым падарожжы, ніякае праблемы ня было, сёлета неўраджай на іх. Гэткі, відаць, год выпаў.

Да вячэры выгуляліся як мае быць. Гаспадары рыхтавалі нам пачастунак пад адкрытым небам. Але пакуль мы дабіраліся да месца сустрэчы, пайшоў дождж, намачыў усё, дый сьцямнела ўжо, дык насьпех пастанавілі частаваць нас у памешканьні дзіцячага садка. За нізенькімі столікамі, на маленькіх крэселцах, скупа зь відэльцамі, нажамі і іншым, але шчодра з гарэлкай, самахвярна з закускай ды багата з дабразычлівай атмасфэрай, мы не агледзеліся як час прайшоў да позьняе начы. Магла-б і ўся ноч праляцець там, калі-б ня трэба было на наступны дзень ехаць далей у дарогу на падобныя спатканьні-агляданьні-частаваньні.

Назаўтра, пад гадзіну 11-ю сонечнага раньня, наш гаманлівы аўтобус падкаціў пад Пінск. Здалёк ужо было відаць, што гэта горад фундамэнтальных старых пабудоваў, памілаваны вятрамі апошняй вайны. На пляцы ў цэнтры места нас спаткаў сп. Іван Калоша, родны брат полацка-кліўлендзкага «патрыярха» Кастуся Калошы, дырэктар пінскага музэю імя Якуба Коласа. Пасьля таго як мы ўталілі смагу выдатным квасам з бочкі на пляцы, сп. Калоша прадставіў нам нашага гіда, красамоўную і эрудыраваную Рыту Марголін, якая, зь ілюстрацыямі ў руках, узялася грунтоўна выкладаць нам гісторыю Пінска. Расказваць яна мела пра што!

Наведаньне багатага, асабліва даваеннымі экспанатамі, музэю Беларускага Палесься, крамы мастацкіх вырабаў, пагулянка па вуліцах далі добрае ўяўленьне пра адзін з найбольш калярытных і самабытных гарадоў Беларусі.

Зьезьдзілі са сп. Калошам паглядзець на дом, дзе калісьці, да рэвалюцыі яшчэ, настаўнічаў малады Якуб Колас. Як і бальшыня будынкаў, дом запушчаны, абшарпаны, зь іранічным надпісам на знадворнай таблічцы, што гэта будынак «узорнай чысьціні» — рэха былога савецкага афіцыйнага самахвальства ды паказальнік сучаснага крызісу і эканомікі і эстэтыкі.

Распыталіся мы, пэўна-ж, ня толькі пра горад, але й пра падзеі ў краіне, асабліва пра неверагодныя вынікі травеньскага антынацыянальнага рэфэрэндуму. Цікава! У каго ні папытайся — і ня толькі ў Пінску, а ўсюды ў часе нашага чатырохдзённага падарожжа: як людзі галасавалі за мову і дзяржаўную сымболіку? — усе, аказваецца, былі за дзяржаўнасьць толькі беларускай мовы і за бел-чырвона-белы сьцяг з Пагоняй. Значыцца, мелі рацыю тыя, хто казаў пра сфальсыфікаванасьць вынікаў рэфэрэндуму.

Заглянуліся ў касьцёл, узялі там інфармацыйную літаратуру — папольску, пэўна-ж. Ксёндз — паляк. Зь людзьмі, што польскае мовы ня ведаюць, гаворыць ламанай расейшчынай. Па-беларуску тут ня служаць. Беларушчына на Беларусі ніяк ня можа выйсьці па-за вузкія межы замаруджанага літаратурна-культурнага працэсу.

Зь Пінску — на Слонім і Жыровічы. Па дарозе бачым, як то тут то там стаяць пірамідкамі падрыхтаваныя да купальскіх вогнішчаў кучы гальля і сухастою. Купальскія традыцыя на Беларусі жыве і адраджаецца! Едзем і мы на купальскае вогнішча, якое чакае на нас недзе ў прыгарадзе Горадні.

У Слоніме па дарозе ў недалёкія ад гораду Жыровічы да нас у аўтобус далучыўся гід — загадчык аддзелу культуры Анатоль Цярэнін. Ад яго мы даведаліся асноўныя факты пра старажытны Слонім, у тым ліку і тое, што «сымболь гораду — леў на задніх лапах з крыжам у руках» (?! — г.зн. у пярэдніх лапах). Гаварыць нашаму гіду па-беларуску было пакутліва цяжка — відаць, рэдкая патрэба ў ягоным жыцьці, і ён напэўна з палёгкай уздыхнуў, калі адбыў перад замежнікамі сваё нялёгкае заданьне. Турысты былі ўдзячныя і гіду, і намесьніку старшыні райвыканкаму Вадзіму Угрыновічу за гасьцінную сустрэчу і азнаямленьне з бацькаўшчынай шмат якіх выдатных беларусаў.

У Жыровічах каля манастыра ідзе вулічнае будаўніцтва, плошча разрытая, пракладаюць, відаць, асфальтавую дарогу, вадапроводы. Гэта, чаго добрага, яшчэ адзін даўгабуд, якіх поўна на Беларусі, улічваючы паўсюдныя дэфіцыты бюджэту і будаўляных матар'ялаў.

У Жыровіцкім манастыры малады сымпатычны клерык, якому сустрэчы з турыстычнымі групамі — не навіна, добрай беларускай мовай і бойкім тонам выклаў нам гісторыю іконы Жыровіцкай Божай Маці і манастыра. Хацелася пабачыцца з сэмінарыстамі багаслоўскай вучэльні, якая працуе тут, але, на жаль, нельга было. Дый час быў кароткі. Вонкавы агляд царкоўных будынкаў завяршыўся наведаньнем храму, у якім зь левага боку іканастасу месьціцца галоўны аб'ект увагі турыстаў, дарагая белрусам рэліквія — іконка 15-га стагодзьдзя, што дала пачатак гэтаму сьвятому месцу. Самым сваім вонкавым выглядам асаблівай увагі яна не прыцягвае. Ці, можа, гэта ў сьпеху, якім было пазнача наша падарожжа?

Пасьля таго як мы вярнуліся ў Слонім, нашы гаспадары, па вячэры ў рэстаране, падрыхтавалі нам шыкоўны дэсэрт — канцэрт выдатнага мясцовага ансамблю «Грымата» (7 асобаў: 2 скрыпкі, 2 гармонікі, бубенчык і 2 галасістыя сьпявачкі). Слухаць, як

*(Працяг на б. 7)*

# АГЛЯД КНІГАЎ

***«Библиография оккупационных периодических изданий, выходивших на территории Белоруссии в 1941–1945 г.г.»*** Под такой назвай пабачыла сьвет кніга (пад грыфам Беларускага навукова-дасьледчыцкага цэнтра дакументазнаўства, археаграфіі і архіўнай справы) у расейскай мове у Менску ў 1995 годзе накладам ўсяго 200 асобнікаў.

Аўтар-укладальнік С. Жумар ў прадмове зазначае, што сярод нявыкарастыстых крыніц па гісторыі вайны істотнай «...з'яўляецца акупацыйная прэса, што легальна выходзіла на тэрыторыі Беларусі пад кантролем нямецкіх уладаў. Выдадзеныя масавымі накладамі перыядычныя выданьні з'яўляюцца носьбітамі вялікага аб'ёму інфармацыі, без уліку якога немагчыма скласьці поўнае і закончанае ўяўленьне пра сацыяльную і эканамічную палітыку акупантаў, сістэму прапагандысцкай працы на акупаваных тэрыторыях, своеасаблівасьцях беларускага і расейскага нацыяналізму і калабарцыянізму, дзейнасьці легатэльных грамадскіх і адміністрацыйных структур, цэркві, сыстэмы адукацыі і г.д.».

Бібліяграфія зьмяшчанае апісаньні каля 100 газэт, часапісаў, календароў на тэрыторыі Беларусі, Польшчы, Латвіі, Літвы, Нямеччыны. Улічаны таксама расейскамоўныя і украінскія выданьні. Кожная пазыцыя зьмяшчае: мейсца выданьня, прозьвішча галоўнага рэдактара, час выданьня, перыядычнасьць, памер, колькасьць старонак, нумароў, друкарню, мейсца захаваньня, заўвагі. Калі абмінуць моўны бок бясспрэчна карыснага выданьня, спалучыўшага беларускамоўныя назвы і расейскамоўныя прозьвішчы іх рэдактароў, можна зьвяруць увагу на сумленна зробленую працу ў сёньняшніх абставінах і на праблемы, накшталт часапіса «Узвышша» (1944 г., рэдактар Ю. Віцьбіч). Сапраўды, даводзілася бачыць фатакопіі тытульнага ліста і асобных старонак першага нумару «Узвышша» ваеннага часу. Аднак сказаць, быў той часапіс выдадзены ці то была толькі карэктарская копія, пакуль складана. А для бібліяграфіі такая розьніца даволі істотная.

* * *

«Гісторыя каханьня набожнай жанчыны і безнадзейна хворага мужчыны. Яна — дачка віленская купца немца, ён — беларускі палітык і антыквар». Той, хто прачытаўшы такі анонс на вокладцы кнігі 1994 г., будзе чакаць гісторыі накшталт мыльнай оперы «Санта-Барбара» ці там "Багатыя таксама плачуць», але атрымае ***«Мае ўспаміны»*** Ю. Вітан-Дубейкаўскай, выдадзеныя Таварыствам Беларускай культуры ў Літве, апрацаваныя і падрыхтаваныя да друку ў рэдакцыі газэты «Наша Ніва» і выдрукаваныя «Тэхналёгіяй» ў 1995 г. На жаль, пэўнае расчараваньне будзе чакаць і чытача, сьвядома ўзяўшага кнігу: сярод безьлічы імёнаў, назваў, іншамоўных выразаў мы знаходзім толькі адно рэдактарскае тлумачэньне да аўтарскага тэксту: «праспэкт Леніна» «сёньня праспэкт Гедыміна». У прадмове Лявон Луцкевіч расказвае пра гісторыю напісаньня кнігі, яе захаваньня і цытуе ўрывак зь ліста аўтаркі да Аміліі Шабуні і Яніны Каханоўскай. Мабыць, будзе да месца зацікаваць яшчэ адзін ліст, пісаны ў чэрвені 1953 г., да Натальлі Арсеньневай і Яніны Каханоўскай. Арыгінал ліста (разам з артыкулам Кветкі Вітан «Зацемкі аб будаўляным мастацтве горада Вільні», як і лістом доктара Грабінскага з успамінамі пра музэй Луцкевіча ў 1939-1941 г.г., што можа зацікавяць рэдактараў-выдаўцоў) перахоўваецца ў аўтара гэтых радкоў.

«Першым выдатным беларусам, якога я спазнала і шчыра пакахала, а зь ім разам і ягоную працу і ягоны народ, быў сьвятой памяці Іван Луцкевіч. Я побач зь ім прайшла апошнія чатыры гады яго жыцьця і закрыла яму вочы, калі ён адышоў у сьветласьць бязустанную. Таму гэтая частка маіх успамінаў будзе пераважна казаць аб Іване Луцкевічу і нашай вялікай прыязьні. Палітычную дзейнасьць І. Л. я толькі ўспамінаю там, дзе яна мне для маіх мэтаў патрэбна. Гэта зрабілі і яшчэ зробяць іншыя, лепш за мяне. За маё жыцьцё з увагі на маю асобу ніхто ў жыцьцяпісе І. Луцкевіча ня шукаў нашыя імёны і не ўспамінаў аб яго асабістым жыцьці, як і нашай вялікай прыязьні, хоць усе, хто нас знаў, ведалі, што я яму была падругай жыцьця. Аб выдатных заслугах Ів. Л. беларусы ўспамінаюць часта, але нідзе няма яго вобраза, як звыклага чалавека з яго душэўным багацьцем і поглядамі, добрымі і слабымі старонкамі характара. ... Аб маіх адносінах да Ів. Л., аб нашай прыязьні я ніколі ня гутарыла ці пісала, людзі бачылі, што я яму добры друг і кажды мог рабіць свае высновы і каментарыі. Каб у гісторыю жыцьця Ів. Л. ня ўкраліся чужыя каментарыі, я пастанавіла апісаць, хоць доўга разважала, ці гэта рабіць, нашу прыязьнь гэтакай, якой яна запраўды была, і даць яго вобраз гэткім, якім ён захаваўся у сэрцы маім. Ів. Л. гэткая выдатная асабістасьць, што дачакае і свайго біографа сярод беларусаў. Можа, тады мяне ўжо ня будзе на гэтым сьвеце, і біограф Ів. Л. закранець і яго асабістае жыцьцё і ўспомніць аб жанчыне, якую меў за друга. Ведама, Ів. Л. і я, як кажны чалавек, жадалі трохі асабістага шчасьця і сваёй сям'і і марылі аб гэтым, але лёс наш быў няміласьцівы і мы мусілі знайсьці сілы душы, каб гэты лёс несьці. У маіх успамінах я хачу падкрэсьліць, што ў нашай глыбокай прыязьні мы знаходзілі гэтыя душэўныя сілы, каб памагаць адзін аднаму ў цяжкіх абставінах нашага жыцьця. Ведама, кажныя ўспаміны гэта ёсьць «Паэзія і Праўда», як Гётэ назваў сваю аўтабіяграфію, якую пісаў на закаце сваіх дзён. Праўда — гэта факты, што падаюцца, паэзія — спосаб, як мы апісваем гэтыя факты, як яны захаваліся і пераламаліся ў сэрцы нашым. Я магу спакойна казаць, што ўсе пададзеныя мной факты — праўдзівыя».

**Л. Ю.**

# *ШЛЯХАМ СКАРЫНЫ*

У сьнежані 1988 году ў сталіцы Расеі Маскве мясцовыя жыхары-беларусы заснавалі Таварыства Беларускае Культуры імя Францішка Скарыны. Тагачасная дэмакратызацыя СССР прабудзіла нацыянальныя пачуцьці нашых суродзічаў ня толькі ў Маскве, але й у многіх іншых гародох Расеі ды ў іншых рэспубліках. Разам і поруч з нацыянальным рухам на Бацькаўшчыне склалі яны шэраг абаронцаў і рупліўцаў нашае культуры, духовых традыцый, нацыянальна-палітычнага ідэалу. Здалёк ад Беларусі цешыліся яны парасткамі дзяржаўнае незалежнасьці ды поступам працэсу адраджэньня. На пачатку 90-х гадоў адчулі яны на сабе клопат **свае** дзяржавы, тады ж усталяваліся творчыя й культурныя сувязі паміж усходнебеларускай дыяспарай і Бацькаўшчынай, адкрываліся новыя пэрспэктывы гэтых узаемадачыненьняў. Тымчасовыя клопаты і праблемы не азмрочвалі ўяваў будучыні. Гэтак было, аднак, да гістарычнага павароту 1994 году, калі прэзыдэнтам абраны быў А. Лукашэнка. Цяпер жа беларуская дыяспара на абшары былога СССР, пераважна ў Расеі, перажывае пэсымізм і засмучэньне, засмучэньне ад пачуцьця няспраўджанасьці й пустадомства, бо свой Нацыянальны Дом ператвараецца ў палігон казарменнага сацыялізму «з расейскім тварам».

У гэткай атмасфэры Маскоўскае ТБК імя Фр. Скарыны набліжаецца да свайго 10-годзьдзя. Нядаўна рэдакцыя «Беларуса» атрымала ліст з Масквы ад намесьніка старшыні таварыства сп-ні Таісы Мішчанкі й бюлетэнь таварыства «Шляхам Скарыны» ад 1995 году. Сп-ня Т. Мішчанка ад імя сяброў ТБК павіншавала беларусаў Амэрыкі з Новым Годам і Калядамі ды паінфармавала пра праблемы й пляны. Бюлетэнь таварыства сьведчыць пра актыўнасьць нашых суродзічаў у сталіцы Расеі. Апрача інфармацыі з палітычнага й культурнага жыцьця Беларусі й беларускае эміграцыі (фота й паведамленьне пра дэманстрацыю беларусаў Амэрыкі 22-го кастрычніка лестась у Нью Ёрку), выданьне інфармуе пра шматлікія культурныя й грамадзкія імпрэзы таварыства, у якіх бяруць удзел дзесяткі людзей рознага ўзросту, прафэсый і зацікаўленьняў. Ёсьць у складзе ТБК свае паэты — спадары Ігар Паўлоўскі й Аўген Чапко, вакальная група «Алеся» пад кіраўніцтвам сп-ні Алесі Бабарэкі. Сябры таварыства бяруць удзел у працы важных палітычных ды грамадзкіх форумаў Расеі й Беларусі. Некаторыя беларусы Масквы, паводле бюлетэню, наведваюць небажэнствы ў касьцёле Сьв. Людовіка, якія біскуп айцец Тадэвуш Кандрусевіч правіць у тым ліку й пабеларуску. Усе разам, бязувважна на веравызнаньне, сьвяткуюць яны Каляды. Купальле для беларусаў Масквы сталася традыцыйным сьвятам. Яны сьвяткуюць яго па-за горадам на беразе ракі разам з сябрамі эстонскага, летувіскага й латыскага зямляцтваў. Пры гэтым беларускі стол і песенная праграма бываюць лепшымі за іншыя. На вялікія ўрачыстасьці, прыкладам 25-га Сакавіка маскоўскія беларусы запрашаюць артыстаў зь Беларусі. Бюлетэнь зьмяшчае інфармацыю ня толькі пра ТБК, але й пра маскоўскую філію Беларускага Народнага Фронту, філію згуртаваньня «Бацькаўшчына» ды іншыя нацыянальныя абшчыны.

Паводле выданьня, амбасада Беларусі ў Маскве зусім не спрыяе таварыству й беларусам гораду, хоць многія іншыя нацыянальныя групы гораду абапіраюцца на дапамогу сваіх пасольстваў і плённа супрацоўнічаюць зь імі. Калі ў першай палове 90-х гадоў ТБК пры дапамозе Станіслава Шушкевіча яны атрымалі адзін пакой у будынку амбасады, дзе ладзілі свае імпрэзы й сходы, дык 2 гады таму таварыства ўсё-ж такі выставілі навонкі, відаць, акурат у часе -змацненьня Кебічаўскае прапагандысцкае кампаніі за саюз з Расеяй. Тры гады працавала ў Маскве пад кіраўніцтвам сп-ні Ганны Багулінай-Рыжкоўскай дзіцячая нядзельная школа «Калі Ласка», але нядаўна заняткі спыніліся з-за атсутнасьці памяшканьня. Бясьсьледна зьнікла ў будынку амбасады бібліятэка, якую сябры ТБК зьбіралі з 1988 году пры дапамозе Міністэрства культуры Беларусі. Нагадаем, што яшчэ колькі месяцаў таму амбасада Беларусі ў ЗША распаўсюдзіла дэмагагічную заяву свайго прэзыдэнта з абяцаньнем абароны суайчыньнікаў па-за межамі ды яшчэ неўзабаве давялося пачуць пра афіцыйную занепакоенасьць і спачуваньне Беларусі сэрбскім імпэрыялістам. Ня чутно толькі, каб справы суайчыньнікаў рэальна хвалявалі «апякуна ўсіх славян» Лукашэнку. Зрэшты, чынавенству амбасады заўжды бракавала паважлівага стаўленьня да беларускага адраджэньня ўвогуле ды дзейнасьці ТБК у прыватнасьці. Пануе ў ягоных сьценах хутчэй, сугучная прэзыдэнцкай, настальгія калі не па СССР, дык, прынамсі, па імпэрскай Расеі. Характэрна, што многія адказныя службоўцы амбасады Беларусі ў Расеі, ня кажучы пра ніжэйшы пэрсанал, маюць грамадзянства Расеі, а не Беларусі! Падобная сытуацыя не атрымала юрыдычнае ацэнкі нават пасьля афіцыйнага запыту аднаго з дэпутатаў Вярхоўнага савету Рэспублікі Беларусь. У цэнтральным друку Беларусі ў свой час паведамлялася гэтаксама пра канфлікты з пэрсаналам амбасады ды абразы супрацоўнікамі нацыянальнае годнасьці маскоўскіх беларусаў.

Калісьці, у 20-х і на пачатку 30-х гадоў нашага стагодзьдзя Масква была буйным цэнтрам беларускага жыцьця. Тут працаваў Беларускі клюб зь бібліятэкай, Опэрна-драматычная студыя. Зямляцтва беларускіх студэнтаў налічвала ў сваіх шэрагах сотні сяброў. Тут выдаваліся беларускія кніжкі й часопісы. Дарэчы, у Маскве распачаў сваю літаратурную кар'еру выдатны пісьменьнік эміграцыі Юрка Віцьбіч, там жа вучыліся й працавалі Мікола Равенскі, Уладзімер Сядура ды іншыя дзеячы беларускае эміграцыі ў ЗША. Ідэйным і арганізацыйным цэнтрам было Паўнамоцнае Прадстаўніцтва Беларусі ў Расеі. Тагачасныя кіраўнікі рэспублікі ў часе службовых паездак у сталіцу СССР сустракаліся з аб'яднаньнямі суайчыньнікаў, дапамагалі ў іхных клопатах, абмяркоўвалі праблемы жыцьця рэспублікі. Гэты пэрыяд, аднак, аказаўся адступленьнем ад звычайнае прыктыкі бальшавізму. Сёньня нашыя суродзічы ў Маскве апынуліся ў сытуацыі, калі свае нацыянальныя каштоўнасьці мала што трэба перахоўваць ды разьвіваць амаль на пустым мейсцы, але й **бараніць**. Самапачуваньне ў падобным стане ня спрыяе добраму настрою. Пэўна гэтым тлумачыцца той пэсымізм, нэрвовасьць ці залішнія нутраныя спрэчкі, якія адбіваюцца на бачынах бюлетэню «Шляхам Скарыны». Памятайма, аднак, што знак Францішка Скарыны — Сонца — мае два аблічвы — суму й радасьці. Супольнасьць аптымізму заўсёды лепшая за пэсымізм, заўжды больш стваральная. Беларускай супольнасьці ў дыяспары, і на Бацькаўшчыне сёньня асабліва важна выявіць дух аптымістычнае стойкасьці й вытрываласьці. Беражэм свой дух ды адкінем злыбяды! Жыцьцё ня спыніцца сёньня ці заўтра. Несрыяльная палітычная сытуацыя ня можа разбурыць наш сымбаль веры, ідэалы нашае беларускае супольнасьці. Выглядае, што падобнае ўсьведамленьне ёсьць у беларусаў Масквы. Як заўважыў у адным з допісаў сп. Аўген Чапко, сябры ТБК ня могуць стацца іншымі, жыць без свае культуры, Бацькаўшчыны. «Пакуль мы патрэбны адзін аднаму — будзем жыць. Жыве Беларусь!» — піша сп-ня Т. Мішчанка. І пэўна ў гэтых словах дэвіз і праграма беларускага згуртаваньня ў Маскве — жыць і радавацца жыцьцю, крочыць наперад Скарынавым шляхам — працаваць і бараніць сваё, заяўляючы іншым аб нашай вытрываласьці ды духовай накіраванасьці.

**Юры Васілеўскі**

## ПРА АМЭРЫКАНСКУЮ БЕЛАРУСЬ У ЭНЦЫКЛЯПЭДЫІ

Энцыкляпэдыя Шматкультурнай Амэрыкі — гэтак называецца двухтамовая праца ведамага амэрыканскага выдавецтва даведніцкае й дасьледчае літаратуры Гэйля ў Дэтройце. Энцыкляпэдыя выйшла напрыканцы сьнежаня 1995 году і цяпер шырака паступае ў кнігарні і бібліятэкі. Гэтае даведачнае выданьне зробленае на параду і з дапамогай Амэрыканскае Асацыяцыі Бібліятэкараў ды мае на мэце задаволіць некалькі патрэбаў у галіне інфармацыйна-даведачнае дзейнасьці.

Для супрацоўніцтва ў энцыкляпэдыі былі пакліканыя колькі дзесяткоў дасьледнікаў, а рэдакцыйную калегію ўзначаліў вядучы амэрыканскі дасьледчык эміграцыі і праблемаў эмігранцкіх грамадаў, прафэсар, дырэктар Нацыянальнага Цэнтру Гісторыі Іміграцыі пры штатным унівэрсытэце Мінэсоты — д-р Рудольф Вэколі. Ад беларускае групы у энцыкляпэдыі супрацоўнічаў і зьяўляецца аўтарам артыкулу аб беларусах у ЗША, д-р Вітаўт Кіпель, старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Усяго ў энцыкляпэдыі разгледжана 101 нацыянальная і рэлігійная група.

Артыкул аб беларусах (ст.ст. 174-182, том 1-ы) пачынаецца з агульнага агляду гісторыі Беларусі ды прычынах эміграцыі. Падкрэсьлена, што за мінулае стагодзьдзе зь Беларусі выэміграваліа панад 2 мільёны жыхароў, як просты вынік расейскае палітыкі на Беларусі. Для Расеі было карысна, каб як мага болей беларусаў выяжджала за межы бацькаўшчыны, а на іх месца наяжджалі на Беларусь не беларусы. Гэткі дэмаграфічны стан спрыяў працэсу русыфікацыі ды канчатковай мэце расейскае палітыкі — зрабіць Беларусь «рускім краем». Далей д-р Кіпель бегла разглядае адраджэньне беларусаў, як палітычнае нацыі, якое укараноўваецца абвешчаньнем незалежнасьці Беларусі ў форме Беларускай Народнай Рэспублікі, пазьней БССР і ў жніўні 1991 году — Рэспублікі Беларусь.

Эміграцыя беларусаў у ЗША разгледжаная вельмі дэталёва. Вызначаныя розныя пэрыяды эміграцыі зь БССР у гадох 1970-1990-х. Агульны лік беларусаў-эмігрантаў, якія пасяліліся настала ў ЗША, д-р Кіпель ашацоўвае ў масштабах ад 600,000 да 650,000 тысячаў.

У арганізацыйным жыцьці беларусаў В. Кіпель падразьдзяляе дзейнасьць грамадзскіх арганізацыяў, рэлігійных ды палітычных. Адназначна, падкрасьляе аўтар, амэрыканская дзейная беларуская грамадзкасьць стаіць на ідэялягічных пазыцыях, што сягоняшняя Беларусь павінна быць незалежнай дэмакратычнай дзяржавай.

* * *

Gale Encyclopedia of Multicultural America; New York–London–Detroit. Gale Research Inc., American Library Association, Information Exchange Round Table, 1995. 2 vols.

**В. З-ч.**

## *ПАДАРОЖЖА Ў БЕЛАРУСЬ*

*(Пачатак на 6 б.)*

сьпявае «Грымата » — любата! Рэпэртуар увесь бадзёры, мэлядыйны, з гумарам. Выкананьне дынамічнае. Шкада, што нельга было набыць касэтак з запісам іхных песень. Калі-б хто-небудзь памог ім запісацца на аўдыё — ці відэаістужку, гэта быў-бы хадавы сувэнір. Падумайце, слонімцы!

Пасьля канцэрту была нагода коратка пазнаёміцца зь мясцовым краязнаўчым музеем, які знаходзіўся тутжа. Заснаваны ў 1929 годзе, ён, як і пінскі, багаты адлюстраваньнем прыроды і старадаўнай мінуўшчыны. Шмат у ім яшчэ старога савецкага духу, зашмат. Затое з новым адражэнскім вельмі скупа. Але Пагоня яшчэ красавалася ў вэстыбюлі памешканьня.

Наслухаўшыся вясёлых заліхвацкіх песьняў «Грыматы-маты-маты», некаторыя нашы падарожнікі, а ў тым ліку Васіль Ліцьвінка, Мікола Котаў і мая Надзя, так гульнулі яшчэ на вуліцы каля аўтобуса пад акардыён Васіля Лук'яненкі, што навакольныя слонімцы адно дзіву даваліся — адкуль гэта ў іхным ціхім горадзе зьявіліся гэткія гулякі, энтузіясты вулічных танцаў.

**Янка Запруднік**

*(Працяг у наступным нумары)*

## СЬВ. ПАМ. ДР. МІКАЛАЙ ШЧОРС



22 сьнежня 1995 году ў веку 82 гадоў памёр у горадзе Моўнт Дора, штат Флярыда, др. Мікалай Шчорс.

Нарадзіўся нябожчык у мястэчку Новы Сьвержань. Вычыўся ў стаўпцоўскай гімназіі, а пасьля на Унівэрсытэце імя Сьцяпана Баторага ў Вільні; скончыў мэдычны факультэт. Быў старшынёю Беларускага Студэнцкага Саюзу. Падчас Другое сусьветнае вайны працаваў доктарам у Варшаве і ўзначальваў Беларускі Нацыянальны Камітэт. З пераездам у ЗША працаваўя доктарам хірургам. Быў закладчыкам і доўгагадовым старшынёю Беларускага Кангрэсавага Камітэту ў Амэрыцы і рэдактарам газэты «Беларуская Трыбуна».

Нябожчык пакінуў па сабе жонку сп-ю др. Лізу, дачку Тамару, сына Мікалая і ўнукаў.

Вечная яму памяць!

## НОВЫ ЧАСАПІС

*Кантакты і дыялогі* — гэтак называецца новы часапіс, які начаў выходзіць у Менску ад месяца сьнежаня летась. Заснавальнікі і выдаўцы часапісу Міжнародная Асацыяцыя Беларусістаў і рэдакцыя часапісу «Тыдзень». Рэдактары новага часапісу д-р Адам Мальдзіс і Эдуард Дубянецкі. Адрас рэдакцыі: Рэспубліка Беларусь, 220050, Мінск-50, вул. Рэвалюцыйная, 15, Камітэт МАБ. На часапіс можна падпісацца ў рэдакцыі. Прыкладная цана аднаго нумару у краінах Заходняй Эўропы пяць ам. дал., а ў ЗША — шэсьць даляраў за нумар. Сьнежанскі нумар часапісу можна атрымаць праз рэдакцыю «Беларуса» альбо праз БІНіМ.

### РАДЫЁСТАНЦЫЯ «БЕЛАРУСЬ»

Радыёстанцыя «Беларусь» вяшчае на Паўночную Амэрыку ад 19:30 да 20:00 паводля ньюёркскага часу на частотах 5940, 13640 і 17665 кілягерцаў. Тыя слухачы, што хацелі-б падзяліцца сваімі ўражаньнямі ад пачутага, могуць пісаць на адрас галоўнага рэдактара Міхася Тондзеля: Менск 220807, вул. Чырвоная, 4, Беларусь.

### АЛЬБОМ ЧАРНОБЫЛЬСКІХ ЗДЫМКАЎ

*A DISASTROUS EFFECT. CHERNOBYL. Edited by John L. Bundy. Printed by Reese's Print Shop, Lock Haven, Pa [1995]. 48 p.*

Каб набыць гэтае выданьне (цана 5 дал.), апісанае ў лістападаўскім нумары «Беларуса», трэба пасылаць заказ на новы адрас, які падаём ніжэй:
Rev. John L. Bundy
7190 Smith Road
Chambersburg, PA 17201

Рэдакцыя «Беларуса» дзякуе за прысланыя газэтныя выразкі наступным асобам: А. Маркевічу, Ю. Кіпелю, А. Баханчыку, К. Вераб'ю, К. Акулу, В. Рамуку, Б. Рагулю, А. Кіпель, А. Нядзьвецкаму, В. Мельяновічу, А. Міцкевічу, Я. і І. Сурвіллам, М. Дэмковіч, Ю. Найдзюк, К. Калабку, В. Ціхаву.

## Каляндар падзеяў у 1966 годзе, цікавых для дыяспары (паводля часапісу *Кантакты і дыялогі*)

Месяц **люты**: навуковая канфэрэнцыя «М.М. Улашчык і праблемы беларускай гісторыяграфіі (да 90-х угодкаў ад дня нараджэньня вучонага), гор. Менск.

**Красавік:** 23-24, Гарэцкія чытаньні, Менск. 25-26 — міжнародная навуковая канфэрэнцыя «Беларускія зарубежныя архівы».

**Травень:** 20-22, міжнародная навуковая канфэрэнцыя «Чатырыста год Берасьцейскай Вуніі», гор. Берасьце.

**Чэрвень:** мястэчка Карэлічы, 15 чэрвеня, «Трэція (першыя міжнародныя) Карэліцкія чытаньні, прысьвечаныя 200-годзьдзю з дня нараджэньня Яна Чачота.

**Лета** (дата яшчэ не вызначаная), г. Менск, міжнародная навуковая канфэрэнцыя «Культура і адукацыя беларускага замежжа».

**Ліпень:** гор. Новаполацк, міжнародны сэмінар «Музэефікацыя гістарычных тэрыторыяў».

Зацікаўленыя могуць зварачацца па дакладнейшыя даведкі на адрыс часапісу *Кантакты і дыялогі* у Менску.

#### Ахвяраваньні на Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва

| | |
|---|---|
| М. Смаршчок | ам. д. 200 |
| В. і З. Кіпель | 200 |
| М. і В. Сьнежка | 100 |
| В. Мыцько | 50 |
| А. Субота | 25 |
| Я. Жучка | 20 |
| К. Акула | 20 |
| У. Машанскі | 15 |
| А. Рамана | 200 |
| В. Мельяновіч | 200 |

## СПАДЧЫНА ЮРКІ ВІЦЬБІЧА

За даўгія гады эміграцыі Юрка Віцьбіч выдрукаваў усяго дзьве кнігі: «Плыве з-пад сьвятое гары Нёман» ды «Мы дойдём». Напісана-ж ім было значна болей, у беларускай і расейскай мовах, прысьвечанае гісторы Беларусі, яе помнікам, людзям, якіх ведаў і любіў, людзям, якіх-бы ніколі не запрасіў да сябе, у невялікую кватэрку ў Саўт-Рыверы. Пасьля сьмерці Віцьбіча засталіся артыкулы бадай што ў кожным выданьні нашай эміграцыі. Багатая друкаваная спадчына Ю. Віцьбіча і ў іншамоўным друку. У архіве ў Саўт-Рыверы спадар Сенька перахоўвае яшчэ перадваенныя матэрыялы экспэдыцыі Віцьбіча па Беларусі. У БІНІМаўскім архіве — ліставаньне пісьменьніка, фотаматэрыялы.

У Фундацыі імя П. Крэчэўскага, дзе захоўваецца рукапісная, эпісталярная спадчына ня толькі Юркі Віцьбіча, але й У. Сядуры-Глыбіннага, Антона Адамовіча, шэрагу іншых беларускіх пісьменьнікаў, сярод неразабраных скрынак у 1994 г. быў выяўлены найбольш поўны рукапіс «Антыбальшавіцкай барацьбы на Беларусі» — працы, якую Віцьбіч рыхтаваў для Інстытуту па вывучэньню СССР. Тады, у 50-я гады, кіраўніцтвам Інстытуту рукапіс быў адхілены. Аўтару закідалася непрыхаваная суб'ектыўнасьць у стаўленьні да сваіх герояў і антыгерояў, увядзеньне ў навуковую працу народных паданьняў, адсутнасьць аналізу крыніц. Не апошнім, як выяўляецца, стаўся тот факт, што рэцэнзенты належалі да расейскай эміграцыі, і іхнія імпэрскія пагляды аніяк не стасоўваліся з адлюстраванай Віцьбічам барацьбой: ня толькі антыбальшавіцкай, але й антырасейскай.

Зрэшты, Віцьбіч не пераймаўся. Ён дапрацоўваў кнігу, дапісаў асобныя старонкі, вышукваў новыя зьвесткі пра антыбальшавіцкія паўстаньні на Беларусі: Слуцкае і Вяліскае, Бешанковіцкае і Барысаўскі галодны бунт. Частка зь іх пазьней асобнымі артыкуламі друкавалася на сторонках «Бацькаўшчыны», «Беларуса», часапісаў, што друкаваліся ў Нямеччыне і Англіі. Выдаць іх кнігай заставалася марай.

І вось БІНІМам падрыхтаваны вялікі том — на 400 старонак — бібліяграфія твораў Віцьбіча, тая частка ліставаньня пісьменьніка, што датычыцца ягонай працы над кнігай і дапаможа лепш зразумець складанасьці — жыцьцёвыя і творчыя — зь якімі ён сутыкнуўся.

Кніга пабачыць сьвет сёлета. Але гэта толькі пачатак. У плянах Інстытуту выдаць том ліставаньня Юркі Віцьбіча, скласьці поўную бібліяграфію ягоных твораў, над чым ужо вядзецца праца. І, хто ведае, можа адшукаем рукапіс кнігі ўспамінаў, пра якія неаднарозава згадваў Віцьбіч на сторонках газэт — «Не чарнілам, а крывёю», хрэстаматыю «Рэлігія ў творах беларускіх пісьменьнікаў».

Юрка Віцьбіч ліставаўся практычна з усімі дзеячамі нашай эміграцыі, дасылаў свае творы для прачытаньня і рэцэнзіі, дарыў кнігі і фатаграфіі. Зь кім ні загаворыш, бачыш, што і ў яго ёсьць нештачка — невядомае, недрукаванае Віцьбічава слова. Праца над новай кнігай спадчыны распачатая. Да яе можа далучыцца ўся эміграцыя. Артыкулы, фатаграфіі, успаміны, лісты, парады — усё, што зробіць кнігу цікавейшай, больш поўнай і грунтоўнай. Каб не згубілася. Калі нехта мае нешта пра Ю. Віцьбіча ў прыватным архіве ды ўважае, што гэта вартаснае да друку — пішэце па адрас:
Lavon Yurevich
1673 W. 2nd Street, 2nd Fl.
Brooklyn, N.Y. 11223
Tel: 718-645-9436.

**Лявон Юрэвіч**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

#### Падпіска на газэту «Беларус» на 1966 год (Аўстралія)

| | |
|---|---|
| В. і Р. Шэйпак | ам. д. 70 |
| З. Кадняк | 60 |
| Сп-ства Кукелі | 50 |
| Я. Яшчанка | 50 |
| М. Нікан | 50 |
| А. Груша | 50 |
| Т. Лашук | 60 |
| П. Гуз | 45 |
| Л. Яцкевіч | 50 |
| В. Каралюк | 45 |
| Я. Стасевіч | 45 |
| У. Сідлярэвіч | 45 |
| Я. Барысэвіч | 65 |
| У. Акавіты | аўстр. дал. 50 |
| М. Кастычны | 30 |
| В. Мелянцэвіч | 100 |
| П. Пачопка | 50 |
| А. Садоўскі | 50 |
| У. Зелянеўскі | 40 |
| А. Руткевіч | 30 |

#### Ахвяраваньні на газэту «Беларус»

*Ад нашага прадстаўніка ў Англіі сп. М. Сенька*

| | |
|---|---|
| Т. Дамінік | анг. фунтаў 60 |
| А. Якубовіч | 25 |

*За каляднія віншаваньні:*

| | |
|---|---|
| К. Акула | ам. дал. 90 |
| В. і В. Рамук | 20 |
| В. і З. Кіпель | 50 |

*Прыслана беспасярэдня ў рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| Г. Паланевіч | ам. дал. 50 |
| В. Мазура | 30 |
| С. Белая | 30 |
| Праф. Локер | 33 |
| М. Чупракоў | 40 |
| Г. Руднік | 50 |
| У. і Л. Брылеўскія (у памяцьд-ра М. Шчорса) | 50 |
| М. Сагановіч | 50 |
| В. Шэйпак (за продаж газэты) | 40 |
| У. Акавіты (за продаж газэты) | 20 |
| М. Яськевіч | анг. ф. 5 |
| М. Грэбень | ам. дал. 50 |
| Л. Татум | 10 |
| А. Рамана | 200 |
| В. Мельяновіч | 200 |
| Я. Запруднік | 100 |
| Фундацыя П. Крэчэўскага | 150 |
| М. Латушкін | 50 |
| Я. Жучка | 20 |
| С. Гайшун | 50 |
| Р. Завістовіч | 20 |
| В. Стус | 50 |
| К. Вініцкая | 50 |
| Я. Азарка | 50 |
| Ф. Бартуль | 100 |